КРЫНІЦА

№1(11) 2010, Студзень

www.bchd.info

# МЯСЦОВЫЯ ВЫБАРЫ – 2010



*Павал Севярынец*

### 1. ПЕРШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КАМПАНІЯ БХД

Кампанія мясцовых выбараў 2010г. для хрысьціянскіх дэмакратаў – сапраўды першая палітычная кампанія нацыянальнага маштабу. З 2008г. , калі ў выбарчай кампаніі на 110 акругаў Палаты прадстаўнікоў удзельнічалі 12 нашых кандыдатаў, БХД вырасла з 419 да 1917 анкетаваных сябраў. Зараз актывісты БХД ёсьць **у большасці раёнаў Беларусі** – а значыць, мы ўпершыню можам заявіць пра сябе як агульнабеларуская палітычная сіла, на сотнях выбарчых акругаў.

Увогуле, ва ўсім сьвеце мясцовыя выбары – канёк хрысьціянскіх дэмакратаў. Бо лібэралы будуюць рынак, камуністы – «ураўнілаўку», а хрысьціянскія дэмакраты будуюць **жыцьцё**. Праблемы людзей павінны вырашацца не раённымі або абласнымі выканкамамі, а сапраўднай мясцовай уладай на ўзроўні вёсак, пасёлкаў, або мікрараёнаў. Мы самі адказныя за месца, у якім жывем – на гэтым стаіць і Эўразьвяз, і ЗША. Мясцовая самакіраваньне (прынцып субсідыярнасьці) – класічная хрысьціянска-дэмакратычная тэма. Цэрквы, сем'і, невялікія прафэсійныя супольнасьці, інтэлігенцыя, прадпрымальнікі – галоўнае апірышча БХД **на месцах**.

У Беларусі на мясцовых выбарах тысячы й тысячы выбарчых акругаў. Гэта першасны, базавы ўзровень улады. І пакуль там, у сельсаветах і гарсаветах, безыніцыятыўныя й безадказныя людзі з савецкім мысьленьнем («прэзідэнт навярху, он разьбяроцца і ўсё рашыт») – новую Беларусь нам не збудаваць.

Дагэтуль, у кампаніях 1999, 2003, 2007гг. апазіцыйныя партыі (БНФ, АГП, ПКБ, БСДП) вылучалі па 100-200 сваіх кандыдатаў на мясцовых выбарах, у асноўным у буйных гарадах. Зараз апазіцыя мае агулам некалькі дзесяткаў дэпутатаў мясцовых саветаў, БХД – двух дэпутатаў райсавету (у Мастах і Навалукомлі).

Для таго, каб зьмяніць такую сумную карціну, патрэбная моцная стратэгія.

### 2. СТРАТЭГІЯ БХД НА МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАХ

Штаб кампаніі, сфармаваны Нацыянальнай Радай БХД, вызначыў як галоўную стратэгію масавае вылучэньне кандыдатаў ад БХД (больш за 300 чалавек), адзіны сьпіс зь Беларускім Незалежніцкім Блокам, апору на цэрквы і сацыяльныя пытаньні.

Па-першае, паслабленьне рэжыму, які хоча атрымаць легітымізацыю на Захадзе, дае нам шанец – лепшы за апошнія 10 гадоў. Папраўкі ў Выбарчы Кодэкс, ціск Эўразьвязу і ўмовы крызісу спрыяюць нашай актыўнасьці і моцнай Кампаніі.

Па-другое, разам з нашымі паплечнікамі з Руху За Свабоду, БНФ, Маладога Фронту і іншымі ўдзельнікамі БНБ мы ў стане закрыць акругі у саветы абласьцей, Менску і буйных гарадоў – а значыць, ахапіць па плошчы ўсю краіну.

Па-трэцяе, калі мы хочам стаць вядучай партыяй у Беларусі, вылучэньне 300 кандыдатаў на мясцовых выбарах – галоўны крок. Масавае вылучэньне кадыдатаў і праца па 300 акругах непазьбежна вядзе да пашырэньня шэрагаў і , у адпаведнасьці з нашай праграмнай задачай, да ператварэньня БХД у сапраўды **масавую партыю**. Мы рыхтуем сотні мясцовых лідэраў – тых, каго так не хапае для сёньняшняй альтэрнатывы.

У гэтым сэнсе выключна важныя для нас сельскія і пасялковыя саветы. Тамтэйшыя ўлады не прывыклі арганізоўваць альтэрнатыўныя выбары (там проста сьпіс: 11 месцаў – 11 кандыдатаў) – і таму яны хутчэй уключаць Вас у гэты сьпіс, калі Вы зьберэце подпісы. Шукайце і вылучайце як мага больш кандыдатаў у сельскіх і пасялковых мясцовасьцях!

Нарэшце, чым болей кандыдатаў на мясцовых выбарах мы вылучаем, тым меншы ціск рэжыму на аднаго асобна ўзятага кандыдата!

### 3. КАНДЫДАТЫ АД БХД

Кандыдатам на мясцовых выбарах можа стаць грамадзянін РБ, якому споўнілася 18 гадоў і які зьбярэ 20 або 75 або 150 (у залежнасьці ад населенага пункту) подпісаў у сваю падтрымку, або будзе вылучаны працоўным калектывам па месцы працы.

Ужо зараз у мясцовых выбарах зьбіраецца ўзяць удзел у якасьці кандыдатаў больш за 100 хрысь-

ціянскіх дэмакратаў. Але гэтага мала – перад БХД стаіць стратэгічная задача патроіць гэтую колькасьць.

Дзе знайсьці такіх людзей?

А. У цэрквах. Многія вернікі і пастары ўвесь час вылучаліся як незалежныя – ім трэба прапанаваць перамагаць разам. Многія гатовыя падчас кампані мясцовых выбараў праводзіць эвангелізацыю ў сваім раёне. Трэба абысьці актыўныя цэрквы, касьцёлы, пратэстанцкія грамады і прапанаваць такім вылучыцца.

В. У нашых галоўных сацыяльных групах. Сярод пенсіянераў (на іх цяжка націснуць), часова не працуючых (іх ня могуць пазбавіць працы), моладзі (актыўныя і творчыя), інтэлігенцыі (у яе абвострэная адказнасьць за краіну), прадпрымальнікаў (маюць імпэт і пэўную незалежнасьць).

С. Сярод сваякоў і знаёмых (надзейны варыянт): сям'ёй або сябрынай «камандай» заўжды рабіць справу лягчэй.

Д. (БХД робіць гэта і цэнтралізавана) – праз паштовае анкетаванне і Інтэрнэт (як у кампаніі Абамы – праз «сацыяльныя сеткі» vkontakte, odnoklassniki і г.д.).

Найпершая праблема для кандыдата ў Беларусі – магчымы ціск па месцы працы ці вучобы. Трэба падбіраць такіх кандыдатаў, хто або здольны вытрымаць такі ціск, або на каго націснуць цяжка.

Кандыдат ад БХД – гэта той, хто гатовы адстойваць правы, інтарэсы і каштоўнасьці людзей, якія жывуць побач; абараняць вобраз і падабенства Божае ў кожным чалавеку **ТУТ і ЦЯПЕР**!

**4. КАЛЯНДАР КАМПАНІІ**

Кампанія мясцовых выбараў будзе афіцыйна аб'яўлена ў другой палове студзеня 2010г. Пачнецца фармаваньне акруговых і ўчастковых камісіяў – і БХД будзе падаваць свае прапановы ў склад выканкамаў. Ужо на гэтым этапе трэба размаўляць зь людзьмі й рыхтаваць актыўную кампанію.

У лютым пачнецца падача заяваў патэнцыйных кандыдатаў разам са сьпісамі ініцыятыўных групаў. У Вашай ініцыятыўнай групе можа быць ад 3 да 10 чалавек. Самыя надзейныя сябры ініцыятыўных групаў – сваякі або браты і сёстры з цэркваў.

Сакавік – месяц збору подпісаў. У сельскія і пасялковыя саветы, каб стаць зарэгістраваным кандыдатам, дастаткова сабраць 20 подпісаў, у раённыя і гарадзкія (абласнога падпарадкаваньня) – 75, у абласныя саветы і Менскі горсавет – 150. (Напрыклад, 75 подпісаў нават навічок зьбірае адзін за 3 вечары – таму, канечне, лепш зьбіраць значна больш, наколькі хапае сілаў і магчымасьцяў).

Красавік – месяц агітацыі. Калі Вас (Вашага кандыдата) зарэгістравалі – Вы маеце права на выбарчы бюджэт, друкуйце плякаты, буклеты і ўлёткі. Лепш вылучацца адразу ў саветы некалькіх узроўняў (раённы і абласны, напрыклад) – закон гэта дазваляе і бюджэт, адпаведна, у Вас будзе большы.

У дзень выбараў галоўнае – назіраньне. Каб вылучыць назіральніка на ўчастку, дастаткова 10 подпісаў жыхароў.



**5. ЧЫМ ДАПАМОЖА ПАРТЫЯ**

1. БХД аказвае падтрымку – арганізацыйную, інфармацыйную, юрыдычную, палітычную, праваабарончую – абласным і раённым каардынатарам, кандыдатам і актывістам партыі. **Штабам вырашана, што падтрымка будзе прапарцыйная колькасьці вылучаных кандыдатаў у тым ці іншым раёне.**
2. БХД прадастаўляе адукацыю тым, хто будзе вылучацца ў кандыдаты – прычым ня толькі сябрам партыі, але і тым, хто падзяляе нашы каштоўнасьці (прыхільнікам). Сэмінары «Як стаць кандыдатам», па назіраньні і выбарчым праве, агітацыі й інфармацыі, хрысьціянскай дэмакратыі й мясцовых самакіраваньні пройдуць у сьнежні 2009 – сакавіку 2010.
3. БХД будзе забясьпечваць міжнародны рэзананс для кандыдатаў і актывістаў выбарчай кампаніі. Сьпісы нашых кандыдатаў у выбарчыя камісіі і дэпутаты будуць перададзены ва ўплывовыя хрысьціянска-дэмакратычныя партыі Эўропы. Кожная спроба ўціску будзе даносіцца да эўрапейскіх і амерыканскіх сябраў, якія сёньня маюць пэўны ўплыў на рэжым (бо зычаць яму грошы).
4. БХД гарантуе асабісты ўдзел лідэраў партыі ў мясцовых кампаніях кандыдатаў. У лютым – красавіку плянуецца дэсант кіраўніцтва БХД паўсюль, дзе ёсьць нашыя кандыдаты.

**ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ! ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ ДЭМАКРАТЫ! У ВАЛАДАРСТВЕ БОЖЫМ ЗА ГЭТУЮ ЗЯМЛЮ І ТОЕ, ШТО НА ЁЙ РОБІЦЦА, АДКАЗВАЦЬ БУДЗЕМ МЫ.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ – ЖЫВЕ З БОГАМ!**

**Тэлефоны для жадаючых удзельнічаць у Кампаніі мясцовых выбараў:**
Менск 80297321633 (Дзяніс), Берасцейская вобл. 80336984127 (Зміцер), Гарадзенская вобл. 80336555249 (Мікалай), Віцебская вобл. 80295977049 (Таццяна), Магілёўская вобл. 80296152837 (Таісія), Гомельская вобл. 80296560064 (Валянціна), Менская вобл. 80295712611 (Валерыя), або 80295160861 (Павал).

# СА СВЯТАМ НАРАДЖЭННЯ ХРЫСТОВА!



**Дарагія браты і сёстры!**
**Беларускія хрысціянскія дэмакраты!**

Ад імя кіраўніцтва БХД шчыра віншуем вас са светлым святам Нараджэння Хрыстова!

Наш партыйны сімвал – бэтлеемская зорачка – вельмі добра выяўляе сэнс дзейнасці БХД. Калісці, у самую цёмную і халодную пару, у забытым кутку айкумены з’явіўся Збаўца свету – і вось цяпер у занядбаным сэрцы Еўропы паўстае рух за хрысціянскія каштоўнасці.

Ісус, Які нарадзіўся ў яслях, патрабаваў апекі і абароны. Бацькам давялося ўцякаць ад Ірада і цярпець пераслед. Але Хрыстос перамог – бо такая была воля Божая, прызначаная ад пачатку свету.

Так і сёння надзея, вера і любоў у Беларусі патрабуюць абароны, патрабуюць нашай з вамі мужнасці перад абліччам нянавісці, несправядлівасці і абыякавасці.

БХД запальвае бэтлеемскую зорку зноў!
Хрыстос нарадзіўся!
Славім Яго!

*Сустаршыні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»*
*Георгій Дзмітрук, Віталь Рымашэўскі,*
*Павал Севярынец, Аляксей Шэін.*

# З НОВЫМ ГОДАМ!



**Дарагія браты і сёстры!**
**Хрысціянскія дэмакраты!**

Віншуем вас з надыходам Новага 2010 года! 2009 годы быў вызначальны для аднаўлення БХД як партыі. 28 лютага і 31 кастрычніка адбыліся З’езды. Партыя двойчы падавала дакументы на рэгістрацыю ды стала адной з заснавальніц Беларускага Незалежніцкага Блоку. Стартавалі кампаніі «Люблю Беларусь», «Моцная сям’я – моцная Беларусь», «Наш адказ на крызіс», працягвалася кампанія «Пакаянне». БХД павялічыла свае шэрагі ў разы.

На парозе 2010 года мы верым, што Госпад дабраславіць нашу краіну і нашу партыю. У новы год, год мясцовых выбараў, мы ўваходзім з новымі сіламі – каб Верай, Надеяй і Любоўю перамагчы страх, нянавісць і абыякавасць.

**Жыве Беларусь – жыве з Богам!**

*Сустаршыні Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі*
*Георгій Дзмітрук, Віталь Рымашэўскі,*
*Павал Севярынец, Аляксей Шэін.*

# АДБЫЛАСЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ РАДА БХД. БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ ВЫЛУЧЫЦЬ НА МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАХ БОЛЬШ ЗА 300 КАНДЫДАТАЎ




**19 снежня ў Менску адбылася Нацыянальная Рада БХД.**

Сябрамі Рады прынятае рашэнне абскардзіць у Вярхоўным судзе рашэнне Міністэрства юстыцыі аб нерэгістрацыі партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Пасля выраку Вярхоўнага суда Нацыянальная Рада прыме канчатковае рашэнне па далейшай рэгістрацыі БХД, паведаміў прэсавай службе лідэр хрысціянскіх дэмакратаў **Павал Севярынец**.

Вырашана таксама данесці да беларускай і міжнароднай грамадскасці ўсе факты рэпрэсій і ціску з боку ўладаў у адносінаў да сябраў і заснавальнікаў БХД; сканцэнтраваць усе высілкі на кампаніі мясцовых выбараў-2010 і вылучыць больш за 300 кандыдатаў ад БХД.

# СТАРТАВАЛА КАМПАНІЯ МОЛАДЗІ БХД У АБАРОНУ СЯМЕЙНЫХ КАШТОЎНАСЦЯЎ

**13 снежня ў Менску стартавала кампанія Маладых хрысціянскіх дэмакратаў у абарону сямейных каштоўнасцяў. Актывісты МХД пачалі збіраць подпісы за ўнясенне зменаў у шэраг заканадаўчых актаў, што тычацца алкаголю, тытуню і абортаў.**







Як распавяла сябра Рады БХД **Ірына Губская**, у прыватнасці, маладыя хрысціянскія дэмакраты выступаюць за забарону рэкламы тытуню і алкаголю і за ўвядзенне больш жорсткіх правілаў продажу гэтых тавараў (не выстаўляць іх на прылаўкі, прадаваць толькі з 21 года). Моладзь БХД таксама выступае за больш шырокае інфармаванне грамадства аб наступствах абортаў і за дазвол лекарам адмаўляцца ад гэтых аперацый па маральна-этычных прычынах.

Подпісы будуць збірацца ў Менску і іншых гарадах Беларусі да сакавіка. Затым іх плануюць перадаць у Адміністрацыю прэзідэнта, Палату прадстаўнікоў, міністэрствы гандлю, аховы здароўя, адукацыі.

Акрамя гэтага, маладыя хрысьціянскія дэмакраты правялі акцыю ў абарону жыцця ненароджаных дзяцей. У горадзе былі расклееныя ўлёткі. У найбольш вялікай колькасьці яны былі расклееныя ўздоўж вуліцаў студэнцкага гарадка.

Хрысціянскія дэмакраты лічаць адной з найбольш маштабных формаў генацыду беларускага народу ўзаконеныя дзтазабойствы – аборты. Безабароннае дзіця ў нас нават ня лічаць за чалавека, азначаючь яго неадушаўлёным назоўнікам – «ПЛОД», таму маладыя актывісты пастараліся, каб улёткі сталі для людзей голасам ненароджанага дзіцяці: «Мамачка, я хачу жыць!..»

# АДБЫЛІСЯ УСЕ АБЛАСНЫЯ РАДЫ БХД









**28 лістапада** ў **Гомлі** прайшла абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Гомельскія актывісты БХД выступілі з ініцыятывай стварыць мясцовую стуктуру Беларускага Незалежніцкага Блоку.

Удзел у абласной Радзе ўзялі прадстаўнікі з розных гарадоў і раёнаў Гомельшчыны.

Абраныя кіраўнік Рады – Тамара Зайцава (Калінкавічы) і намеснікі кіраўніка – Юры Клімовіч (Гомель) і Аляксей Змушко (Рэчыца). На сходзе прысутнічаў сустаршыня БХД **Павал Севярынец**.

**5 снежня** ў **Віцебску** прайшла абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Удзел у ёй прынялі больш за 20 прадстаўнікоў з Віцебску, Воршы, Барані, Паставаў і Пастаўскага раёна, Глыбокага і Глыбоцкага раёна, Чашнік, Навалукомлю, Міёраў. На сходзе прысутнічаў сустаршыня БХД **Павал Севярынец**.

**6 снежня** ў **Кобрыне** адбылася Берасцейская абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». На сустрэчы прысутнічалі 15 прадстаўнікоў большасці берасцейскіх структураў БХД. З кіраўніцтва партыі прыехалі сустаршыні БХД **Аляксей Шэін** і **Георгій Дзмітрук**, адказны сакратар партыі **Дзяніс Садоўскі**.

**6 снежня** ў **Магілёве** адбылася абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Удзел у ёй прынялі 24 прадстаўнікі з Магілёва, Бабруйска, Клічава, Асіповічаў, Круглага і іншых гарадоў. Асноўныя тэмы, што абмяркоўвалі магілёўскія хрысціянскія дэмакраты, – мясцовыя выбары і рэгістрацыя БХД. На сходзе выступаў сустаршыня БХД **Павал Севярынец**.

**12 снежня** ў **Менску** адбылася абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Удзел у ёй прынялі прадстаўнікі з Менску, Слуцку, Салігорску, Заслаўя, Івянца, Лагойска, Нясвіжскага і Маладзечанскага раёнаў. Асноўныя тэмы, што абмяркоўвалі менскія хрысціянскія дэмакраты, – мясцовыя выбары і рэгістрацыя БХД. На сходзе прысутнічаў сустаршыня БХД **Павал Севярынец**.

**13 снежня** ў **Навагарадку** прайшла абласная Рада «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі». Удзел у ёй прынялі 24 прадстаўнікі з Горадні, Гарадзенскага раёна, Ліды, Слоніма, Мастоў, Ваўкавыску, Наваградку.

Вырашаліся пытанні мясцовых выбараў, стварэння абласной газеты БХД, партыйнага будавання, падтрымкі Юрыя Казака на судзе па справе аблітага зялёнай фарбай помніка Леніну, які неўзабаве чакаецца. На сходзе прысутнічалі сустаршыні БХД **Павал Севярынец** і **Аляксей Шэін**.

# ДЭЛЕГАЦЫЯ БХД ПРЫНЯЛА ЎДЗЕЛ У КАНГРЭСЕ БУЙНЕЙШАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ СІЛЫ ЕЎРОПЫ – ЕЎРАПЕЙСКАЙ НАРОДНАЙ ПАРТЫІ



*Сустрэча сустаршыняў БХД з кіраўніком Еўрапейскай Народнай Партыі спадаром* **Вільфрэдам Мартэнсам**

Дэлегацыя «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» у складзе сустаршыняў партыі **Віталя Рымашэўскага, Аляксея Шэіна і Георгія Дзмітрука** прыняла ў снежні 2009 году ўдзел у кангрэсе буйнейшай палітычнай сілы Еўропы – Еўрапейскай Народнай Партыі. Кангрэс праходзіў у Боне (Нямедчына).

Сустаршыня БХД **Віталь Рымашэўскі** каментуе вынікі ўдзелу дэлегацыі БХД у Кангрэсе буйнейшай палітычнай сілы Еўропы – Еўрапейскай Народнай Партыі.

– *Тое, што ў рэзалюцыю Кангрэсу ЕНП было ўключана пытанне па рэгістрацыі БХД – знакавая і вельмі важная падзея для беларускай дэмакратычнай грамадскасці*, - зазначыў у інтэрв'ю прэсавай службе БХД Віталь Рымашэўскі.

**Віталь Рымашэўскі** падкрэсліў, што «*на самым высокім узроўні нам было пацверджана, што пытанне ўваходжання БХД у ЕНП са статусам назіральніка не будзе залежыць ад нерэгістрацыі альбо рэгістрацыі беларускімі ўладамі*».

Пры гэтым, заўважыў сустаршыня БХД, у кіраўніцтве ЕНП добра ведаюць пра сітуацыю з ціскам на актывістаў БХД.

– *І тыя беларусы пры ўладзе, якія думаюць, што еўрапейскіх палітыкаў можна падмануць, як першакласнікаў, глыбока памыляюцца*.

Пасля Кангрэсу ЕНП, сцвярджае **Віталь Рымашэўск**і, можна казаць, што «*у нас ёсць добрыя хаўруснікі ў выглядзе хрысціянскіх дэмакратаў Польшчы, Літвы, Украіны*».

# ВЫНІКІ ТЭЛЕФОННАГА АПЫТАННЯ ПРА БХД



**Сябры «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» правялі тэлефоннае сацыялагічнае апытанне наконт ведання партыі і стаўлення да дзейнасці БХД у Менску.**

Апытанне праводзілася сярод мэтавай групы БХД (вернікаў, моладзі і інтэлігенцыі) – тых людзей, што два гады таму ставілі свой подпіс пад зваротам аб змене закона «Аб свабодзе сумлення».

Падчас тэлефоннага апытання задаваліся наступныя пытанні:

1. Ці ведаеце вы партыю БХД?
2. Ці ведаеце вы акцыі і кампаніі БХД?
3. Ці ведаеце вы лідэраў БХД і каго?
4. Ці варта БХД прадпрымаць трэцюю спробу зарэгістравацца?
5. Ці хацелі б вы атрымліваць рассылку БХД?

Адказалі на пытанні 133 чалавекі.

Вынікі апытання наступныя:

БХД ведаюць 49% рэспандэнтаў;

Чулі пра акцыі БХД або ўдзельнічалі ў іх – 27% апытаных;

Лідэраў БХД ведаюць 43% апытаных (на ўдакладняючае пытанне «каго?» 29 чалавек назвалі Паўла Севярынца, 4 - Віталя Рымашэўскага, 2 – Георгія Дзмітрука і 1 - Аляксея Шэіна);

Лічаць, што БХД абавязкова павінна яшчэ раз спрабаваць легалізавацца, 53% рэспандэнтаў;

50% апытаных заявілі аб жаданні атрымліваць рассылку БХД.

# СУД НАД АКТЫВІСТАМ БХД ПА СПРАВЕ ЛЕНІНА

**29 снежня ў Наваградку пачалося паседжанне суда па справе актывіста БХД Юрыя Казака.**

Падтрымаць Юрыя прыехалі лідэры БХД **Павал Севярынец, Віталь Рымашэўскі, Аляксей Шэін**, адказны сакратар БХД Д**зяніс Садоўскі**, лідэры Маладога Фронту **Зміцер Дашкевіч, Наста Палажанка, Мікола Дземідзенка**, праваабаронцы **Наста Лойка, Мікалай Арцюхоў**, журналісты. Усяго ў залі суда прысутнічала каля 30 чалавек.

Нагадаем, у ноч з 6 на 7 лістапада ў горадзе мясцовы помнік Леніну быў абліты зялёнай фарбай. З гэтай нагоды тады ж былі затрыманыя моладзевыя актывісты БХД. Дзеянні Казака ахарактарызаваныя як «наўмысныя, парушаючыя грамадскі парадак і вызначаныя асаблівым цынізмам». Падлічаны і ўрон, які нанёс актывіст «з мэтай знявагі грамадскіх інтарэсаў і гістарычных традыцый, выкарыстоўваючы лакафарбавы матэрыял». Ён склаў 3.740 рублёў.

На судзе была зачытана падрыхтаваная кандыдатам гістарычных навук **Юрасём Бачышча** даведка-абгрунтаванне наконт сапраўднай ролі Леніна для Беларусі і беларусаў пад назвай «*Наяўнасць помнікаў Леніну ў Беларусі з'яўляецца вялікім цынізмам і знявагай гістарычнай памяці беларускага народа*». Свае подпісы пад гэтым незалежным сведчаннем падпісаліся дактары гістарычных навук **Алесь Смалянчук і Алесь Краўцэвіч**, кандыдаты гістарычных навук **Ігар Кузняцоў, Алесь Пашкевіч, Юрась Бачышча, Генадзь Сагановіч**, археолаг **Мікола Крывальцэвіч**.

У часе перапынку каля трох дзясяткаў сяброў Юрыя Казака пачалі кідаць сьнежкі ў помнік Леніну. Адразу з суду выбеглі некалькі міліцыянтаў. Яны назіралі за тым, што адбывалася, але ня ўмешваліся і не патрабавалі спыніць «абстрэл» помніка.



30 снежня ў Наваградку быў другі дзень судовага паседжання. Пракурор запрасіў не турэмнае пакаранне і не так званую «хімію», а штраф. Памер штрафа – 250 базавых велічыняў. Прысуд адкладзены на 11 студзеня 2010 года.

Пазіцыя суду зразумелая, кажа Павал Севярынец, сённяшняя дзяржава пракамуністычная і бязбожная. Гэты суд – ганьба для Беларусі, як і наяўнасць помнікаў і вуліцаў у імя камуністычных правадыроў.

– «*Калі БХД прыйдзе да ўлады, усе помнікі Леніну будуць звезеныя ў асобны музей, а вуліцам з камуністычнымі назвамі вернуты гістарычныя назвы – максімальна хутка*», – адзначыў лідэр БХД.



# Невядомая гісторыя. Заходняя Беларусь: 1921 – 1954 гг.

## Месца злачынства - Наваградак

Наваградзкі фільтрацыйна-размеркаваньны лягер НКУС быў створаны ў ліпені 1944 г. У 1947 годе ён, як і ўсе падобныя ўстановы, спыніў сваё існаваньне.

Лягер месьціўся ў цэнтры гораду (зараз на гэтым месцы знаходзіцца будынак Наваградзкага ГРАУС. Зьвесткі аб камэнданце лягеру невядомыя. Ахову лягеру зьдзяйсняў 3-ці стралковы батальён 287-га стралковага паўку НКУС СССР. «Кантынгент» лягеру складалі беларускія грамадзяне, віна якіх палягала ў тым, што яны змагаліся за незалежнасьць Беларусі, выкарыстоўваюцы нацысцкую акупацыю.

Існаваньне Наваградзкага лягеру, праўда пра які, як і пра іншыя, схаваная ў архівах КДБ, падцьвярджаецца праз шэраг дакумэнтальных крыніцаў:

1. Успомнім сваіх вязьняў. Вось што, напраклад, распавядае адзін зь іх, сп. Кантор Гірш: «Мы выйшлі на Магілеўскую шашу і пабачылі:: нашыя войскі (савецкія) рухаліся на Менск. Дабраахвотнікамі ў войска нас ня ўзялі, прапанаваўшы ехаць у ваенкамат. На падарожнай машыне мы даехалі да Смалявічаў. Зайшлі ў райкам партыі, сказалі, што зьбеглі з Трасьцянецкага лягеру. Сакратар сказаў, што гэтага ня можа быць: там усіх растралялі і спалілі, зьбегчы было нямагчыма. Больш з намі не пажадалі размаўляць. Вывялі на двор і паставілі да сьцяны. Нас распранулі, адабралі пінжакі, абутак, пакінулі басанож у лёгкіх кашулях. Так мы патрапілі ў савецкую турму – але за што?

Праз некалькі дзён нас вывелі на двор. Там ляжалі і стаялі некалькі тысячаў былых паліцэйскіх. Калі ўсіх пашыхтавалі, абвясьцілі:

– Крок налева ці направа з калёны лічыцца пабегам.

Шмат дзён калёну гналі на захад. Нікога ня кармілі. Нарэшце мы дацягнуліся на Наваградку». (крыніца – «Армія Краёва на Беларусі», ст. 217. http://www.jivebelarus.net/history/new-history/army-krayova-part-01.html)

2. Дыслакацыя ў Наваградку канвойнага батальёну войскаў НКУС СССР, дыслакацыяй у наваколльі, напрыклад ля г.п. Любча, што ў 25 км. ад Навагарадку, 265 мотастралковага паўку аператыўных войскаў НКУС СССР, дыслакацыяй на тэрыторыі Дзятлаўскага і Казлоўшчынскага раёнаў 58-й стралковай дывізіі УВ НКУС СССР. Навошта трымалі адборныя дывізіі НКУС у вобласьці летам 1944 году? Можа быць толькі адзін адказ – дзеля зачысткі тэрыторыі.

3. Сьведчаньнямі жыхароў Навагрkörадку, якія нават сёньня, праз некалькі дзесяцігодзьдзяў, баяцца казаць праўду, а калі йдуць на шчырую размову, то толькі па атрыманьні гарантыяў поўнае ананімнасьці. «У 1944 годзе, - паведаў страшную праўду адзін зь мясцовых жыхароў, - мне было 6 год. Наша сям'я перабралася ў Наваградак у жніўні 44-га году з Дзятлаўскага раёну. З расповядаў бацькі мне вядома, што у цэнтры гораду, дзе зараз знаходзіцца мясцовы адзел міліцыі, знаходзіўся лягер, абнесены некалькімі радамі калючага дроту і вышкамі з кулямётчыкамі. Праз браму гэтага лягеру, які ахоўвалі войскі НКУС, увайшло шмат тысячаў людзей, - настаўнікі, дактары, журналісты, жаўнеры і афіцэры БКА і паліцыі, а выйшлі адзінкі. Увесь ліпень і жнівень і цэлую восень туды гналі людзей гуртамі ад 300 да 1000 чалавек і больш. Было шмат жанчынаў і дзяцей. Па горадзе пайшлі чуткі, што жывымі адтуль нікога ня выпускаюць. Кожную ноч зь лягеру даносіліся крыкі катаваных: «ратуйце», «дапамажыце», «за што б'еце», «паміраю».

Пытаньне: колькі вязьняў трымаліся ў Наваградзкім лягеры?

Адказ:: па словах старых, больш за 35 тыс. беларусаў, але я думаю, што нашмат болей.

Пытаньне: што вам вядома пра далейшы лёс вязьняў лягеру?

Адказ: іх усіх расстралялі.

Пытаньне: у якім месцы адбываліся растрэлы беларускіх грамадзян?

Адказ: Мне вядома тры такіх месца: адно пры ўездзе ў горад, дзе стаяць помнікі ахвярам нацызму, там ляжыць каля 18 тыс. чалавек, у другім – больш за 10 тысяч, астатнія – у трэцім месцы, якое я гатовы паказаць.

Пытаньне: Вы ведаеце толькі пра тры месцы масавых забойстваў беларусаў войскамі НКУС СССР, ці вам вядомыя іншыя месцы, дзе таксама адбываліся растрэлы?

Адказ: Расправы адбываліся ў глухіх, аддаленых і недасяжных месцах Навагарадзкага і Дзятлаўскага раёнаў. (крыніца – НА РБ. Ф. 4683, оп. 3, д. 971, л. 293–318.)

У 2003 годзе ў Менску быў выдадзены даведнік «Лягеры савецкіх ваеннапалонных у Беларусі (1941-1944)». У згаданы даведнік увайшлі зьвесткі пра лягеры, «зьвесткі аб якіх захаваліся ў архіўных дакумантах, сабраных у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь, абласных і дзяржаўных занальных архівах, Дзяржаўным архіве Расейскай федэрацыі, Бундесархіве (Федэральным архіве) Германіі». (крыніца – «Беларусь пад нямецкай акупацыяй», ст. 97). Пра Наваградзкі лягер савецкіх ваеннапалонных, у якім, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, загінула 24 тыс. Байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі, ня сказана нічога.



*Месцы растрэлаў і пахаваньняў (1918 – 1940 гг.)*

У 2003 годзе навуковым супрацоўнікам Наваградзкага краязнаўчага музэю стала вядома пра адно з трох пахаваньняў, дзе, згодна з расказамі мясцовых жыхароў, пакояцца больш за 6 тыс. беларускіх грамадзянаў. Няма сумневу ў тым, што гэтае пахаваньне – адна з братніх магілаў, дзе ляжаць вязьні Наваградзкога лягеру, забітыя савецкімі спецслужбамі ў пасьляваенны час.

Калі афіцыйныя ўлады пачнуць сцьвярджаць, што лягеру НКУС не было і быць не магло, бо лета 1944-га году прынесла свабоду і незалежнасьць для Беларусі, а масавыя пахаваньні – ахвяры фашысцкай адвольнасьці, таму аўтары дасьдедваньня памыляюцца, прапаную вельмі простае выйсьце – адкрыць архівы КДБ і паказаць грамадзянам Беларусі і ўсяму сьвету, што адбывалася на вызваленых землях. А калі архівы адкрываць «нельга», то патлумачыць, чаму. Лёгіка ўладаў цалкам зразумелая – ім не патрэбныя яшчэ адныя Курапаты, бо гэта «ачарняе гераічнае мінулае». Сучасныя рэпрэсіі таксама выразна паказваюць, якая спадчына шануецца зараз.

***Сяргей Чарнавокі,***
*сябра Нацыянальнай Рады БХД*

*па кнізе Аляксандра Татаранкі «Недазволеная памяць». Пераклад уласны.*



***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **Мікалая Радзівіла Чорнага**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***

# МІКАЛАЙ РАДЗІВІЛ ЧОРНЫ



Кожная вялікая краіна мае свайго вялікага рэфарматара. У Амэрыцы гэта Абрагам Лінкальн, змагар з рабствам. У Расеі Пётр I, стваральнік імпэрыі. У Турцыі – «заходнік» Атацюрк.

Для Беларусі зь яе духовай гісторыяй правадыром эпахальных пераменаў стаў лідэр Рэфармацыі Мікалай Радзівіл Чорны. Ключавая асоба духовага абуджэньня XVI ст., Мікалай Радзівіл стаіць у шэрагу найвялікшых постацяў Сярэднявечча поплеч з Франьцішкам Скарынам, Вітаўтам Вялікім і Львом Сапегам.

Мікалай зьявіўся на сьвет у 1515 г., у Нясьвіжы, родавай калысцы Радзівілаў. Дзяцінства правёў у Кракаве, пры каралеўскім двары – разам з будучым каралём Рэчы Паспалітай Жыгімонтам Аўгустам.

Ужо ў маладосьці дзейсны й харызматычны Мікалай Радзівіл стаў нефармальным лідэрам беларускай магнатэрыі. Гэта ён у 1544 г. прапанаваў абраць Жыгімонта II Вялікім князем Літоўскім, што адначасова ўзмацняла беларускую незалежнасьць і пазыцыі самога Радзівіла. Ваявода берасьцейскі й троцкі, вялікі маршалак, Мікалай Радзівіл Чорны ўжо ва ўзросьце Хрыста стаў фактычным кіраўніком ВКЛ. Калі ж улічыць яшчэ й пасаду канцлера, атрыманую ў 1551-м, стрыечнага брата Мікалая Радзівіла Рудага, прызначанага вялікім гетманам літоўскім, сястру Барбару, што зрабілася жонкай Жыгімонта, а затым і каралевай польскай, княскі тытул, уручаны Папам Рымскім, ды яшчэ права захоўваць у сябе ў Нясьвіжы дзяржаўны Архіў ВКЛ – стане зразумела, што ў сярэдзіне XVI стагодзьдзя Мікалай Радзівіл Чорны сканцэнтраваў у сваіх руках аграмадную ўладу й зрабіўся адным з самых уплывовых валадароў Эўропы.

І менавіта яму, наймагутнейшаму з Радзівілаў, Госпад Бог дару чыў ролю лідэра Рэфармацыі ў Беларусі.

Вясною 1553 года, вярнуўшыся ў Вільню з Эўропы, узбуджанай Лютэрам, Цьвінглі й Кальвінам, Мікалай Радзівіл Чорны абвясьціў, што прымае эвангельскую веру – і заклікаў да хрысьціянскага абуджэньня. Калі Скарына быў прадвесьнікам Рэфармацыі, Мікалай Радзівіл стаў яе непасрэдным правадыром.

Тое, што «дзеля вяртаньня сапраўднай веры Хрыстовай» удалося зрабіць Чорнаму за наступныя 12 гадоў, называецца духовай рэвалюцыяй. Дзесяткі магнацкіх і тысячы шляхецкіх сем'яў сьледам за Мікалаем Радзівілам каяліся ў грахах, ахвяравалі сваё жыцьцё Богу й пераходзілі ў эвангелікі – так, як лютэране ў Нямеччыне, гугеноты ўва Францыі ды пурытане ў Ангельшчыне. Па ўсёй краіне на сродкі Радзівіла й яго прыхільнікаў былі адчыненыя сотні пратэстанцкіх збораў, выдадзены дзесяткі тысячаў асобнікаў хрысьціянскае літаратуры. 10 запаведзяў, казаньні й малітвы рабіліся рэальным эпіцэнтрам жыцьця беларускай эліты. Трыюмф рэфармацкага хрысьціянства выклікаў сустрэчны ўздым і каталіцтва, і праваслаўя: краіна пераўвасаблялася літаральна на вачох. У агмяні духовага жару ствараласа нацыя.

За 12 зорных гадоў Мікалаем Радзівілам Чорным была праведзеная «Устава на валокі», падрыхтаваны II Статут ВКЛ, выданы Віленскі прывілей 1563 г. аб роўнасьці ўсіх хрысьціянскіх канфэсіяў і ўніфікаваны грашовы абарот – адбыліся найбуйнейшыя гаспадарчыя, палітычныя й грамадзянскія рэформы. У часы Радзівіла Рэфарматара пачалася бурлівая ўрбанізацыя й адукацыйны бум, а валавы ўнутраны прадукт павялічыўся ўтрая.

Адной з галоўных справаў жыцьця Мікалая Радзівіла Чорнага стала выданьне кальвінскай Бібліі па-польску. Друкуючы яе вялізным накладам – на гадавы даход ад усіх уладаньняў, 10 тысячаў дукатаў! – Радзівіл такім чынам разьлічваў узьняць рэфармацыйную хвалю ў каталіцкае Польшчы. Найбуйнейшы геапалітычны праект беларускай эвангелізацыі павінны быў пераўвасобіць Польшчу й спыніць яе экспансію ў ВКЛ.

Душа беларускае Рэфармацыі й шчыры вернік, Мікалай Радзівіл Чорны быў настолькі ж гарачым абаронцам незалежнасьці. Супернік Івана Жахлівага ў справе яднаньня ўсходняга славянства, ён адначасова зрабіўся й галоўным супрацоўнікам вуніі з Польшчай. Пашыраючы кальвінізм, ён марыў пра нацыянальную веру, якая кансалідуе вялізную дзяржаву й зробіць Беларусь сапраўдным сэрцам Эўропы.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*



# БЕЛАРУСЬ ЗЯМНАЯ І НЯБЕСНАЯ

*Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, паэт, публіцыст, драматург.*

Ёсць два вобразы Беларусі – Беларусь зямная і Беларусь нябесная. Нябесная – гэта Божая задума, якая прарасла семем на нашай зямлі. Гэта таксама наш чалавечы ідэал, тое, што апявалі паэты і за што змагаліся лепшыя сыны Айчыны. Зямная – гэта арэал існавання, варункі гістарычнага развіцця, менталітэт, вартасці і недахопы нацыянальнага характару.

Адна без другой існаваць не могуць. Як бы нам дзве іпастасі Беларусі паяднаць у сваім сэрцы, каб любіць не толькі «краіну-мару», як вобразна выказаўся адзін малады палітык, але і яе рэальнае ўвасабленне.

Часам беларуса любіць гэтак жа цяжка, як і суседа (у параўнанні з чалавецтвам). Яго хвалёная памяркоўнасць падобна на звычайную баязлівасць, а страх перад начальствам увогуле ў крыві.

Умее ён, рахманы і прыветны,
І паўставаць, і мужна ваяваць,
Ды будзе прад дзвярыма кабінета –
Падвойнымі – слабеючы стаяць.

Ці не таму былыя франтавікі, што дайшлі да Берліна пераможным маршам, баяліся сказаць слова на партыйным ці калгасным сходзе? Ці не таму так «разбавіў» беларушчыну наплыў вайскоўцаў з Расіі, бо з іх многія тут аселі і навязвалі мясцовым сваю волю? (Зрэшты, яны паўсюль яе навязвалі, толькі з розным поспехам.) А хтось сцвярджае: адзін народ... Які ён адзін, калі пасіянарнасць розная?!

А колькі было здзекаў з сялян з боку ўлады да вайны! Мой дзед Сцяпан жыў на хутары Дубнікі (каля Слуцка); дзесяць двароў там было. Выконваючы план па ліквідацыі хутароў, два сельсавецкія начальнікі аднойчы прыйшлі з сякерамі і падсеклі дубнікоўцам лёгкія саламяныя стрэхі. Гаспадары з дзецьмі аказаліся пад чыстым небам і мусілі перабірацца хто куды.

Адну сям'ю з маёй роднай вёскі Лясішча выслалі ў Сібір толькі за тое, што іх праведаў сваяк з Заходняй Беларусі. Тады ж наведаўся хлопец і ў суседняе сяло. І тых родзічаў выслалі. Так што страх узнік не на пустым месцы і захаваўся на генным узроўні.

Каб далёка не шукаць прыклады, звярнуся да ўласнага вопыту. Канец 70-ых, у раёне выбіраюць камасамольскіх сакратароў. Галасаванне тайнае, мой голас – «супраць». Калі аб'явілі вынікі – 100 адсоткаў «за»! Як хацелася мне ўстаць у вялікай зале і выгукнуць: «А куды падзеўся мой голас?» Не ўстала і не выгукнула – страшна! У высокае дрэва трапляе маланка. Затое гэты эпізод стаў мне ўрокам, бо я яго адрэфлексавала.

«Калгасы – гэта вялікае балота», – казаў адзін ветэран вайны. Менавіта калгасы навучылі беларусаў красці, цягнуць дахаты ўсё, што кепска ляжыць, і што добра – таксама. Залазіць у агульную кішэню не лічылася заганай. Наадварот: на тых, хто не браў, касавурыліся: можа данесці. Даносы былі звыклым спосабам звядзення рахункаў і помсты. Адзін чыгуначнік данёс на случака за кражу фуражу. Той адбыў год турмы і, вярнуўшыся, напісаў на крыўдзіцеля кляўзу з больш сур'ёзным абвінавачваннем: маўляў, хацеў зрабіць аварыю і тым пашкодзіць Савецкай уладзе. Бацьку пяці дзяцей у выніку расстралялі.

Планамернае вынішчэнне нацыянальнай эліты – дзеячаў навукі, літаратуры, мастацтва – не толькі сеяла страх, але і адбілася на агульным узроўні нацыі. Нашы каштоўнасці палягаюць у сферы матэрыяльнага і тычацца ў асноўным жыццезабеспячэння. Таму і ад мовы лёгка тутэйшыя адмаўляюцца, што не бачаць ад яе ніякай рэальнай карысці. У Швецыі першую сваю кніжку дзіця атрымлівае ад дзяржавы ў раддоме. За першую самастойна купленую ў сем год казку мне добра-такі папала ад маці. Бо грошы яна давала на хлеб. Мая маці рана страціла бацькоў і, як пазней я даведалася, страшэнна галадала падчас вучобы ў агранамічным тэхнікуме. У яе дваюроднай

сястры, якая там жа вучылася, дзяўчаты знайшлі пад матрасам сухары, прывезеныя з дому. Ніхто і не бачыў, калі яна іх хрумкала.

Вясковая нацыя, можа, і трывалая, і жыццястойкая, але і яна даўно пачала чэзнуць з прычыны занядбанасці самой вёскі і агульнага працэсу скучвання народу ў гарадах. У свіныя галасы, са спазненнем на дзесяць гадоў у нас узяліся рэаніміраваць сяло. Вось, для прыкладу, тры падгледжаныя на Міншчыне моманты з жыцця.

Памёр стары чалавек. Ссінелага сына з выглядам зомбі і вырачаным вокам жанчыны піхаюць да труны, каб развітаўся з бацькам. Падышоў нехаця, каб адчапіліся. Меней чым праз год пахавалі і яго.

У дзень чарговых прэзідэнцкіх выбараў да былой сельсавецкай работніцы (яшчэ мо на пенсію не выйшла) наведалася суседка з бутэлькай. У 8 гадзін раніцы. Ужо ў 11 гаспадыню знайшлі мёртвай: сэрца не перанесла колькасці праміле.

А вы калі-небудзь сустракалі ў вясковай сям'і даўна-алкаголіка? Гэта значыць, хвораму хлопчыку налівалі за сталом дзеля смеху, пакуль той не прывык і не пачаў прасіць сам. Таксама смешна. І як не наліць, калі яму хочацца?! Вось яны, жахлівыя вобразы сучаснай здэградаванай вёскі...

Я ўсё-такі больш падзяляю крытычны погляд Васіля Быкава на ўласны народ, чым хваласпевы нейкай гіпатэтычнай Беларусі, не толькі белай, але і пушыстай. Дыялектыка не вельмі сябруе з ідэалізацыяй чаго б там ні было. Жыццё звычайна разбурае ідэалізацыі, і робіць гэта даволі жорстка.

Нельга ўвесь час дыхаць разрэджаным паветрам высокіх сфераў; ад гэтага мутнее свядомасць. Нельга ўвесь час харчавацца белым хлебам і прысмакамі; наша плоць просіць звычайнага чорнага хлеба праўды. На жаль, мы не бачым рэальнасці, мы жывём у сваіх уяўленнях пра яе. Уяўленні могуць быць узнёслымі, узвышанымі, паэтычнымі, рэальнасць – прыземленай, брыдкай, празаічнай. Але іншай мы пакуль не стварылі. Што маем, тое маем... Мы любім сваіх бацькоў не за тое, што яны лепшыя за ўсіх, а за тое, што яны *нашы*. Так і з Беларуссю. Якая б яна ні была – няразвітая, нерашучая, апатычная – мы яе дзеці. Наш абавязак – бачыць і любіць Беларусь сапраўдную, зямную. Нябесная на нас за гэта не пакрыўдзіцца.

# ВУНІЯ – НЯЎМІРУЧАЯ ІДЭЯ



Вунія – гэта старажытная вера нашых продкаў у адзінага Бога. Згодна ўніі ёсць Бог і ёсць створаны Ім сьвет. Бог стварыў чалавека паводле вобраза і падабенства надаўшы яму вольную волю. Чалавек з'яўляецца вянцом стварэння, у ім сканцэнтравана ўся Боская задума.

Унія пачалася з палітыкі, працягвалася як лёс народу, знайшла сваё завершаньне ў мэтафізыцы. Сёння Унія, як Храм з'яўляецца залатым сном Беларускай Культуры.

Скарына і Гусоўскі, Сапега і Сматрыцкі, Купала і Абдзіраловіч, Генюш і Арсеньева – ейныя апосталы. Чалавеку Воляй Божай даўно ўжо вызначаны жыццёвы шлях, месца ў грамадзтве й пэўная жыццёвая мэта, бо Госпад Бог, як стваральнік найлепш ведае чалавечую істоту, ейныя думкі, мроі, жаданні ды здольнасці.

Бог жадае, каб чалавек сваёй вольнаю воляю выбіраў Божую волю.

*ЛІТВІН,*
*Баранавічы*

# КРЫЖАВАНКА АД «КРЫНІЦЫ»



**Уздоўж**: 5. Месца для пеўчых у царкве. 7. Нацыянальная беларуская гародніна. 8. … Райчонак – гаспадыня прыватнага мастацкага музею ў Германавічах. 9. Складка ў сэрцы. 10. Служба, праца. 11. Ім абазначаецца невядомая велічыня ў матэматыцы. 13. Мастак з Віцебска … Шагал. 16. Казачны змей, дракон. 18. Першасвятар у Бібліі – брат Майсея. 19. Вялікі нямецкі філосаф Іммануіл ... 21. Каталіцкі свяшчэннік у Заходняй Еўропе. 24. Рака на Віцебшчыне, ля якой войска гетмана ВКЛ Радзівіла ў 1564 г. атрымала перамогу над маскоўцамі. 26. Некультурны, жорсткі чалавек; вандал. 27. Тэадор … – гісторык і археолаг, аўтар шматтомнай «Гісторыі літоўскага народа». 28. Сталіца старажытнаармянскай дзяржавы. 29. … Незалежнасці – галоўная плошча ў Кіеве. 30. Частка трыбуны на стадыёне.

**Упоперак:** 1. Від спорту – спуск на лыжах з гары. 2. Песнапенне ў гонар свята або святога (у праваслаўнай традыцыі). 3. Месца захавання сямейных фотаздымкаў. 4. “Адзенне” для ног. 6. Зімовая павозка. 7. Буйны драпежнік з кашэчых. 12. Марская жывёліна ў паўднёвых марах-акіянах. 14. Насякомае з джалам. 15. Асоба, якая ўчыняе кару. 16. Пашыраная ў Беларусі назва вёсак (напрыклад, так называецца вёска ля Курапат). 17. Урачысты верш. 19. Славуты польскі горад, быў рэзідэнцыяй караля Ягайлы. 20. Штат на Захадзе ЗША. 22. Мінерал, злучэнне натрыю і бору; антысептык. 23. Алег … – беларускі археолаг, дзеяч ТБМ. 24. Паліва для АЭС. 25. Гатунак яблыкаў.

*Склаў Вольф Рубінчык, г. Мінск*

**Адказы**

Уздоўж: 5. Кліраc. 7. Бульба. 8. Ада. 9. Клапан. 10. Работа. 11. Ікс. 13. Марк. 16. Цмок. 18. Аарон. 19. Кант. 21. Абат. 24. Ула. 26. Варвар. 27. Нарбут. 28. Ані. 29. Майдан. 30. Сектар.

Упоперак: 1. Слалам. 2. Трапар. 3. Альбом. 4. Абутак. 6. Сані. 7. Барс. 12. Карал. 14. Аса. 15. Кат. 16. Цна. 17. Ода. 19. Кракаў. 20. Невада. 22. Буракс. 23. Трусаў. 24. Уран. 25. Аніс.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 8 студзеня 2010 г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі
зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.